Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

● №44(80) ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ ●1-7 лістапада 1996 года. ● Цана 1500 руб.

## Падзея тыдня

Вынікі Усебеларускага народнага сходу падвёў у сваім звароце да народа А. Лукашэнка. На яго погляд, сход прадэманстраваў еднасць прэзідэнта і народа. І таму народныя думкі, жаданні і надзеі з'яўляюцца арыенцірам у палітыцы кіраўніка дзяржавы. Прэзідэнт лічыць, што пакуль яшчэ існуе поле для кампрамісу, і ён чакае сустрэчнага кроку з боку сваіх палітычных апанентаў. Зварот заканчваецца наступнымі словамі: "Толькі народ мае права выбіраць свой лёс!"

У гэты ж час у сувязі са зваротам С. Шарэцкага ў Канстытуцыйны суд з просьбай вызначыць адпаведнасць Канстытуцыі і законам рэспублікі пастановы Вярхоўнага Савета "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнні" у раздзеле ўнясення ў бюлетэнь для тайнага галасавання паправак да існуючай Канстытуцыі, галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта зрабіла заяву. У ёй гаворыцца: "Разумны кампраміс Аляксандра Лукашэнкі аб пераносе даты рэферэндуму па змяненнях і дапаўненнях у Канстытуцыю на 24 лістапада 1996 года ненадоўга ашаламіў уладных апазіцыянераў і канстытуцыйных суддзяў, якія абслугоўваюць іх... Старшыня ВС Сямён Шарэцкі звярнуўся да Старшыні Канстытуцыйнага Суда Валерыя Ціхіні, напэўна, з адной мэтай: любой цаной заблакіраваць правядзенне рэферэндуму шляхам прызнання прапанаваных прэзідэнтам паправак да існуючай зараз Канстытуцыі, незаконнымі.

Такім чынам, Канстытуцыйнаму Суду належыць зрабіць заключэнне па абодвух праектах паправак у Канстытуцыю, што выносяцца на рэферэндум. І хутчэй за ўсё, абодва праекты будуць прызнаныя новымі Канстытуцыямі. А вынясенне такіх дакументаў на рэферэндум супярэчыць закону. Зараз становіцца зразумелым, чаму прэзідэнт робіць стаўку на "народнае веча" і чакае сустрэчных прапаноў парламента.

Вышэйшага пункту дасягнула і супрацьстаянне ў пытанні аб прызначэнні на пасаду галоўнага рэдактара "Народнай газеты". Прэзідэнт прызначыў М. Шыманскага сваім указам на гэтую пасаду і падтрымлівае яго, заклікаючы калектыў газеты да маральнай стойкасці да "правакацый палітычных банкрутаў". Старшыня Вярхоўнага Савета лічыць гэтае прызначэнне незаконным на падставе Закона РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" і запэўніў членаў працоўнага калектыву газеты ў тым, што будзе да канца адстойваць законнасць. Канстытуцыйны суд вынес рашэнне аб адмене існуючых указаў Лукашэнкі.

Па ўсяму відаць, што парламент цвёрда вызначыў сваю пазіцыю на базе строгага захавання Канстытуцыі і прыцягнення ўвагі да ўнутранай сітуацыі ў рэспубліцы міжнароднай грамадскасці. Прэзідэнт жа, выступаючы ад імя народа, імкнецца замяніць існуючы Асноўны Закон на свой, адобраны Усебеларускім народным сходам праект.

*Аляксанлр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑Прэзідэнт краіны вырашыў падтрымаць прапанову грамадскага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў "За сацыяльную справядлівасць" аб паэтапнай кампенсацыі грамадзянам РБ урону, нанесенага незаконнай фінансавай дзейнасцю суб'ектаў гаспадарання. Указам № 438 прапанавана прадугледзець у якасці крыніцы кампенсацыі, акрамя цэнтральных сродкаў, магчымасць выкарыстання прыбытку прадпрыемстваў. Паэтапная кампенсацыя пачнецца з 1 лістапада.

❑Праўленне Нацыянальнага банка Беларусі для нармалізацыі сітуацыі на ўнутраным валютным рынку прыняло рашэнне, згодна з якім банкі могуць праводзіць здзелкі па куплі-продажы валюты на пазабіржавым валютным рынку. Але сумы такіх здзелак абмежаваныя– не больш як 30 тысяч адзінак замежнай валюты для долараў, марак, грыўняў, і да 3 мільёнаў расійскіх рублёў.

❑2 лістапада– Дзяды, дзень памяці продкаў. У гэты дзень БНФ плануе правесці шэсце ад будынку КДБ праз плошчу Я. Коласа на Курапаты. Па заяве арганізатараў, шэсце пройдзе ў любым выпадку. Нават калі яго не дазволяць улады.

❑26-27 кастрычніка Мінск прымаў удзельнікаў Рэспубліканскага фестывалю "Грай, гармонік". У такое буйное мерапрыемства перарасло штогадовае свята "Мінскі гармонік", якое карысталася вялікай папулярнасцю і кожны год пашыраў кола гарманістаў. Таму яму вырашылі надаць статус рэспубліканскага.

❑З 1 лістапада ўводзіцца льготная 50% аплата за праезд на прыгарадным чыгуначным транспарце для студэнтаў, вучняў і пенсіянераў. Дзеці да сямігадовага ўзросту будуць карыстацца правам бясплатнага праезду.

## Кіраўнікоў "Электрамодуля", "Спадарожніка" і ЗПМ прэзідэнт запрасіць да сябе. Разабрацца.

*МАЛАДЗЕЧНА. У сераду Аляксандр Лукашэнка, як і абяцаў, прыехаў на Маладзечаншчыну.*

Яго візіт пачаўся з наведвання Чысці пад Красным. Пасёлак, які стаў не толькі цэнтрам АТ "Забудова", але і самым сучасным населеным пунктам Беларусі, апошнім часам прыцягвае ўсё большую ўвагу спецыялістаў-гаспадарнікаў, простых людзей. Жыць у Чысці стала прэстыжным. Зразумела, не ўсе праекты дамоў, якія ставіліся на чысцінскія канвееры, выдатныя. Але прэзідэнту, хутчэй за ўсё, гаварылі толькі пра тое, чым не сорамна пахваліцца.

Не сорамна было за прадукцыю свайго, а дакладней, народнага аб'яднання "Маладзечнамэбля" і яго дырэктару Валерыю Бушылу. Маладзечанскую мэблю добра ведаюць нават на берагах Рэйна. Ёсць чым ганарыцца і дырэктару прадпрыемства па выпуску медінструментаў "Струм" пану Мурзіну.

А вось кіраўнікоў вядучых прадпрыемстваў Маладзечна– завода парашковай металургіі, "Электрамодуля" і "Спадарожніка" Аляксандр Лукашэнка абяцаў запрасіць да сябе– разабрацца, чаму да гэтага часу прадпрыемствы "ляжаць".

Вокамгненна прайшоў візіт першай асобы ў дзяржаве на Маладзечаншчыну. Увечары ў горадзе зноў запанаваў звычайны рытм жыцця– замігалі на ўсе тры колеры святлафоры, паімчаліся па перакрытых да гэтага вуліцах аўтамабілі. Жыццё працягваецца.

*Аддзел інфармацыі.*

**ВІЛЕЙКА**. Візіту прэзідэнта чакалі і ў Вілейцы. Балазе– з Чысці падаць рукой. Напагатове было самае вялікае прадпрыемства горада, у свой час самае буйное прадпрыемства Еўропы па выпуску фотаапаратуры, завод "Зеніт". Але ў планах А. Лукашэнкі наведванне "Зеніта" мусіць, не было. Дзякуючы крэдыту, выдзеленаму апошнім часам распараджэннем прэзідэнта, напружанасць з выплатай зарплаты тут знятая. Скардзіцца, здавалася б, няма на што. А хваліцца, як чысцінцам, няма чым.

**ВІЛЕЙКА**. Прэзідэнт Беларусі наведаў расійскую вайсковую частку пад Вілейкай. Амаль паўтары гадзіны доўжылася сустрэча з вайсковымі маракамі ў прысутнасці афіцыйных асоб, якая закончылася кубкам наварыстага рускага чаю.

*Аддзел інфармацыі.*

## Патрабуюцца на работу

*Цэнтры занятасці паведамілі аб вакансіях па стане на 31 кастрычніка.*

***Вілейка:*** пячнік (1), сталяр (2), муляр (1), газаэлектразваршчык (1), электразваршчык (1), вартаўнік (1), прадавец (4), цясляр (6), жывёлавод (4), кравец (2). **Тэлефон для даведак 54113.**

***Смаргонь:*** фармацэўт (1), інжынер-электронік (1), наладчык станкоў з ЛПК (1), слесар-лякальшчык (1, зарплата па дамоўленасці, жыллё). **Тэл. для даведак 32130.**

***Мядзел:*** газаэлектразваршчык (1), жывёлавод (2), электрык (1), ляснічы (1), трактарыст (1), даярка (1). **Тэл. для даведак 55835.**

***Валожын:*** па словах работнікаў цэнтра занятасці, вакансіі мяняюцца кожны дзень. Ці то ў раёне агульнае беспрацоўе, ці то самі работнікі не вядуць улік. **Спытаце іх самі па тэл. 55581.**

## Навіны

### Космас беларуса

*Выйшла ў свет кніга Л. Савік "Космас беларуса", прысвечаная акадэміку міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, вядомаму нацыянальнаму, грамадскаму, педагагічнаму дзеячу Заходняй Беларусі і беларускай эміграцыі Б. Кіту.*

Лёс гэтага выбітнага чалавека быў цесна звязаны як з мястэчкам Лебедзева, адкуль паходзіла яго жонка Ніна Корсак і дзе нарадзіўся іх першы сын Уладзімір, так і з Маладзечнам.

Менавіта тут, у горадзе, увосень 1942 г. Б. Кіт стварыў і ўзначаліў гандлёва- адміністрацыйную школу, у якой за два гады правучыліся больш за 300 навучэнцаў, у пераважнай большасці з тагачасных Маладзечанскага, Вілейскага, Ашмянскага і Радашковіцкага паветаў.

*Алесь ЦАДКО.*

### Ах, как хочется вернуться в "Городок"

*АСТРАВЕЦ. Трэба спадзявацца, што неўзабаве ў рэгіёне з'явіцца яшчэ адзін сродак масавай інфармацыі. Тут плануюць адкрыць мясцовае "Бі-бі-сі".*

Заснавальнікамі радыёперадачы, пад яшчэ рабочай назвай "Городок", выступяць раённы вузел электрасувязі, райвыканком і, магчыма, рэдакцыя газеты "Астравецкая праўда". Выходзіць у эфір "новастварaемае дзіця" будзе тры разы на тыдзень па праводнай сетцы ў час, які адведзены для мясцовага радыё. Будуць у ёй, трэба спадзявацца, і інфармацыйныя блокі, і рэпартажы з масавых мерапрыемстваў, і аповяды пра сённяшні дзень людзей, а таксама музычныя віншаванні і аб'явы. Пакуль жа падбіраюцца дыктары, абсталяванне і іншае.

Вось толькі вакол назвы перадачы могуць узнікнуць непаразуменні і нават немалыя. Па-першае, назва "Городок" нічаму не адпавядае, не стасуецца, бо Астраўцу да статусу горада далекавата, перадача будзе вяшчацца і па вёсках. А па-другое, самае галоўнае, як бы не "пранюхалі" пра астравецкі плагіят вядучыя папулярнай расійскай тэлеперадачы "Городок" Юрый Стаянаў і Ілья Алейнікаў і не запатрабавалі ў судзе кругленькую суму ад заснавальнікаў. У гэтым выпадку апошнія "вернуться и ворваться в Городок" здолеюць не хутка.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Знаёмства

*АШМЯНЫ. Новы старшыня райвыканкома Віктар Пракопчык прыступіў да абавязкаў.*

Былы кіраўнік калгаса пачаў са знаёмства з начальнікамі службаў раёна. Іван Раманоўскі, які падаў ў адстаўку, цяпер працуе ў "Аграпрамбанку".

*Аддзел інфармацыі.*

### Візіт Паэта

*МАЛАДЗЕЧНА. — Ніколі не думаў, што мушу займацца палітыкай,— сказаў на сустрэчы са сваімі чытачамі Ніл Гілевіч. Нават у наш палітызаваны час Паэт сабраў паўнюткую залу.*

Людзі стаялі нават у праходах актавай залы райвыканкома, каб прысутнічаць на вечарыне, прысвечанай 65-годдзю літаратара, 50-годдзю яго творчай дзейнасці. Вечарыну, дзе прэзентавалася і новая кніга "Любоў прасветлая", арганізавала цэнтральная раённая бібліятэка. Са сваімі вершамі і вершамі Гілевіча выступілі мясцовыя паэты, прагучала песня на словы Ніла Сымонавіча. Было і слова Паэта, яго даўнейшыя і новыя вершы.

А назаўтра ў актавай зале ЦГБ імя Багдановіча адбылася яшчэ адна імпрэза, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вучонага, заснавальніка беларускага мстацтвазнаўства Міколы Шчакаціхіна, які памёр ў 1940 г. у ссылцы ў Башкірыі. У Маладзечне жыве дачка Алена і пахавана жонка, на магілу да якой нядаўна была дастаўлена ўрна з зямлёй з магілы яе мужа.

*Алесь ЦАДКО і аддзел інфармацыі.*

### Валютны завод

*СМАРГОНЬ. З пачатку года льнозавод узначаліў Віктар Розель. Ён адразу навеў парадак у сваёй гаспадарцы, знайшоў пакупнікоў на прадукцыю прадпрыемства. Дзеля пошуку стварыў камерцыйны аддзел.*

Цяпер кароткае валакно ідзе ў Фінляндыю і Літву і толькі за долары. Доўгае– у Расію. 60% расіяне аплачваюць сваімі рублямі, 40%– бартэрам: халадзільнікамі, дыванамі...

У завода тры свае фірменныя магазіны. Вяскоўцаў аб'язджае аўталаўка. У планах Розеля– на пачатку наступнага года адкрыць сталоўку, "запусціць" цяпліцу. І самае галоўнае, ўвесці часальны цэх.

Няма падстаў сумнявацца, што запланаванае здзейсніцца. Усё ідзе да стварэння сумеснага беларуска-фінскага прадпрыемства. Крок да гэтага– абсталяванне з Фінляндыі па выпуску алею.

*Альберт КУМІШЧА.*

### Што такое талент?

*ВАЛОЖЫН. Каб раскрыць этымалогію слова "талент", не абавязкова гартаць тлумачальныя слоўнік. Варта стаць гледачом канцэртнай праграмы, з якой выступае малдаўскі "Жок".*

Грандыёзная, грацыёзная дзея на дзве гадзіны часу паланіла залу. Правінцыя ж увогуле не спешчаная візітамі прафесійных артыстаў. Не выключэнне і жыхары цэнтральнай вёскі калгаса імя Карла Маркса. Таму як падарунак лёсу і быў успрыняты ўдзячнымі гледачамі канцэрт такога тытулаванага калектыву, як акадэмічны нацыянальны ансамбль народнага танца "Жок" з Малдовы. Гэтае мерапрыемства адбылося ў рамках дзён культуры Малдовы ў Беларусі, што праводзіліся ў канцы кастрычніка.

Трыццаць тысяч рублёў каштаваў білет на канцэрт. Сотню набылі калгаснікі, а пераважную большасць гледачоў Пяршайскага Дома культуры склалі жыхары Валожына, Івянца, удзельнікі самадзейных танцавальных гурткоў раёна.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

### Новыя сябры

*МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні з сяброўскім візітам сюды прыбыла дэлегацыя з германскага Нойбрандэнбурга. Прадстаўнікі таварыства Чырвонага Крыжа прывезлі гуманітарную дапамогу— адзенне і абутак на дзяцей і дарослых, медыкаменты, аднаразовыя шпрыцы, перавязачны матэрыял і іншае.*

Таварыства Чырвонага Крыжа Мядзельскага раёна падобныя дапамогі размяркоўвае малазабяспечаным жыхарам, інвалідам, адзінокім, мнагадзетным і ў лячэбныя ўстановы.

Госці азнаёміліся з курортнай зонай, пабывалі і ў піянерскім лагеры "Зубраня", былі прыемна ўражаны прыгажосцю нашай прыроды. Яшчэ ў красавіку Чырвоны Крыж Нойбрандэнбурга звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў Германіі з просьбай падказаць, дзе людзям можа спатрэбіцца іх дапамога. У далейшым планавалася наладзіць сяброўства і дзелавыя сувязі. У міністэрстве вядома было пра наш край як аздараўленчы, як раён, дзе жыве нямала перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. Так што гэты візіт новых сяброў не апошні.

*Яніна БУГЛАК.*

